**У НУМАРЫ**

- Чаго вам па судах бадзяцца?
- «Беларуская песня — 71» (рэпертуарная падборка)
- Галя не напісала ўсяе праўды
- Страхі
- Ленін — вачыма віляноўскіх вучняў
- Міжшкольны конкурс

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (772) БЕЛАСТОК 13 СНЕЖНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

Сустрэчы з „Нівай”

## У ГАРКАВІЧАХ

Вёска Гаркавічы дала двух вялікіх людзей у беларускім руху. З'яўляюцца імі Павел Валошын — беларускі пасол у Сейм у даваеннай Польшчы, арганізатар Беларускай сялянска-работніцкай грамады, якая хутка разраслася да статысячнай арганізацыі. А зноў Сяргей Прытыцкі расславіўся падчас віленскага судовага працэса КПЗБ-оўцаў, калі ён страляў у правакатара Стральчука. Зараз Сяргей Прытыцкі з'яўляецца старшынёю Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Аб гэтых двух асобах і цяпер у Гаркавічах часта ўспамінаюць. Успаміналі аб іх і падчас «Сустрэчы з Нівою», якую арганізаваў у кастрычніку сакольскі аддзел Беларускага таварыства. Выказвалі жаданне арганізаваць спатканне са сваім былым аднавяскоўцам Сяргеем Прытыцкім.

А калі ўжо гаварыць аб «Сустрэчы з Нівою», дык трэба сказаць, што мела яна вельмі цікавы пачатак. Вучні чатырохкласнай школы пад кіраўніцтвам Рэгіны Талярчык падрыхтавалі мастацкую частку, якая складалася з вершаў і песень беларускіх і польскіх, а таксама з некалькіх танцаў. Пасля гэтага ў адрас журналіста было накіравана шмат пытанняў адносна зместу «Зоркі» (дзіцячы дадатак «Нівы»).

— Замала ў «Зорцы» друкуецца сцэнічнага матэрыялу і вершаў з нагоды розных гадавін, — гаварыла настаўніца Рэгіна Талярчык.

Затым пайшла гутарка аб справах вёскі. І тут ужо выступалі старэйшыя на чале з солтысам Леанідам Кіцкалём. Выказванні людзей можна запісаць наступнымі словамі.

— Будавалі мы святліцу пры дапамозе аддзела асветы і культуры павятовай рады нарадовай у Саколцы. Атрымалі тады мы 16 тысяч злотых. У мінулым годзе наша ГРН прыдзяліла 10 тысяч злотых. Зрабілі мы за гэтыя грошы печы. І так маем святліцу. Але ў святліцы нічога. Няма ў ёй тэлевізара, няма светліцовага, дык няма чаго туды заходзіць. Няма ў Гаркавічах ніколі аніякіх мерапрыемстваў, калі не лічыць фэстыну БГКТ, арганізаванага Беларускім таварыствам.

Другая справа, якая моцна ставілася жыхарамі вёскі Гаркавічы, гэта будова брукаванага шасцікіламетровага адрэзка дарогі, якая спалучала б з Сакольскаю шашою. І тут зноў чуваць нараканні, што павятовыя ўлады не прыходзяць вёсцы з дапамогаю, што ніхто не цікавіцца цяжкімі даездамі да Шудзялова і тым, што сюды мог бы даязджаць ПКС. Усе крыўды дзеюцца з-за недахопу належнай дарогі да Гаркавіч.

Гаркавічане гэтыя дзве справы — будову дарогі і справы святліцы — ставяць як асноўныя праблемы вёскі. І паводле іх вырашыць іх павінны павятовыя ўлады. А што на гэта кажуць у Саколцы?

— Ведаем, што Гаркавічы рэвалюцыйнай былі вёскаю ў мінулым. Але цяпер аніякай ініцыятывы няма ў Гаркавічах. Уладзіць справы святліцы пад сілу вёсцы. У многіх мясцовасцях грамадскім чынам будуюць і клубы і рамізы, а нават школы. Грамадскім чынам пачынаюць будаваць дарогі, а тады прыходзяць з дапамогаю ўлады. Гаркавічан ніхто не крыўдзіць. Калі ёсць за што, дык і дзяржаўныя адзначэнні прызнаюцца жыхарам вёскі. Але не толькі «дай» павінна чуцца ў Гаркавічах. Неабходна там грамадская ініцыятыва і грамадская праца, бо павятовыя ўлады адразу ва ўсіх вёсках павета не могуць выканаць слушных пажаданняў.

*М. Хмялеўскі*



*Расце ўверх новы Беласток. Жыллёвы раён «Цэнтр».* *Фота — Сянько*

СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ




У вёсцы Вычулкі, якая знаходзіцца ля самай дзяржаўнай мяжы ў Сямяціцкім павеце, жылі па-суседску дзве сям'і: Шульжыкі і Тышкі. Раздзяляў іх толькі шчарбаты плот. Аднак раздзяляў! Ды так паспяхова, што раздзяляе іх і па сённяшні дзень, хаця ад мінулага года Шульжыкі і Тышкі не жывуць ужо па-суседску.

У чым жа справа? Якое ліха розніць гэтых людзей?

Адзін і другі паціскае толькі плячыма і, быццам змовіўшыся, паўтараюць: „А хто яго ведае...” А пасля гэтай філасофскай фразы дадаюць:

Васіль Тышка: — Яны мне ўсе куры пабілі, а гарод знішчалі, дарогу спакойна прайсці не давалі, а цяпер дык і карову не дазваляюць мне пасвіць на супольным лугу нашай вёскі.

Шульжык Аляксандр: — Вы ж светлы чалавек (вось і зарабіў я камплемент!), самі ведаеце, як гэта ў нас ёсць па-суседску: то курка, то гусь... а яны — Тышкі, значыць, — толькі і глядзелі, каб нам дакучыць, каб на чужыне пражыць. Вось паглядзіце, што чаўпецца! Сваю зямлю — у яго было аж сем гектараў — здаў ён пад дзяржаву, што месяц атрымоўвае тысячу злотых пенсіі, а карову пасе на нашым, на супольным. Якое ў яго да гэтага права!?

Я сяджу, слухаю, запісваю ў блакнот словы аднаго і другога, а назойлівая думка не дае мне спакою: дзе я знаходжуся? З якой эпохі гэтая вёска? Ці выпадкова не вярнуўся я на 20—50—70 год назад у нашае мінулае?

Аднак над маёй галавой зіхаціць электрычнае святло, у Тышкі ля радыёпрыёмніка бачу зборнік вершаў Сяргея Есеніна, а ў хаце Шульжыка сустракаю таксама нейкія кніжкі і газеты. Ён лічыць сябе заслужаным дзеячом. Гаворыць, што за народную ўладу змагаўся яшчэ ў даваенным падполлі, што зараз пасля вайны са зброяй у руках выступаў супраць бандаў.

А цяпер судзіцца, шукае сваёй „праўды”, сваёй „справядлівасці”.

Дык і я адпраўляюся ў Сямяціцкі павятовы суд. Тут гэтыя суседзі з Вычулак першы раз сустрэліся 29 чэрвеня 1970 года. Адбылася тады першая прымірыцельная судовая расправа. Кацярына Шульжык — жонка Аляксандра Шульжыка, якой ужо 62 гады, абвінавачвала Тацяну Тышку, жонку Васіля Тышкі, якой 56 год, у тым, што:

**„... 8 мая 1970 года ў Вычулках парушыла цялесную нетыкальнасць Кацярыны Шульжык, пабіўшы яе кіем па галаве і па руках...”**

Адначасова тая ж Кацярына Шульжык абвінавачвала Міхася Тышку, сына Васіля і Тацяны, якому 28 год, у тым, што:

**„... падбухторваў сваю маці Тацяну Тышку да парушэння цялеснай нетыкальнасці Кацярыны Шульжык”.**

Так яно запісана ў судовых паперах. А калі гэтае перакласці на болей зразумелую, чалавечую мову, дык паводле Кацярыны Шульжык яе „цялесная нетыкальнасць” была парушана наступным чынам:

**„8 мая 1970 года, у 15.00, я вярталася дадому і, калі праходзіла ля сядзібы грамадзянкі Тацяны Тышкі, яна адразу ўдарыла мяне кіем па галаве, і яна пачала мяне біць нагамі дзе толькі папала, а сын яе, які быў у водпуску, крычаў: „Дай той старой к...е, толькі так, каб не было слядоў на целе”. Каб людзі не адратавалі, дык яны б мяне забілі...”**

Так яна растлумачыла сваю крыўду перад судом. Пасля ў болей шчырай гутарцы Кацярына Шульжык дадала:

**„Папярэдняга дня выпала нам чарга пасвіць вясковую чараду, дык я не хацела забраць на пашу яе каровы, бо яны не маюць права пасвіць сваёй жывёліны на агульнай пашы”.**

Працяг на стар. 4

БГКТ ХРОНІКА

- Праўленне гданьскага аддзела БГКТ 1-га лістапада павярыла абавязкі старшыні аддзела Анне Красько. (Датыхчасовы старшыня Мікалай Іванюк вельмі перагружаны вучобаю і прафесіянальнай працай).
- Варшаўскі аддзел арганізаваў эстрадную групу пад мастацкім кіраўніцтвам Яраслава Шульца. Ад 1-га лістапада падрыхтоўваецца праграма.
- Драмгурток БГКТ у Рыбалах падрыхтоўвае фрагмент п'есы Кастуся Губарэвіча «Першы ўрок».
- Гурток БГКТ у Ляневе (Гайнаўскі павет), які ўзначальвае Анатоля Самойлік, поўнасцю аплаціў членскія складчыны за бягучы год. Гурток пастанавіў прыступіць да конкурсу на найлепшы драмгурток, аб'яўлены Галоўным праўленнем БГКТ.
- Па прапанове гайнаўскага аддзела БГКТ аддзел асветы павятовай рады нарадовай з нагоды Дня настаўніка ўзнагародзіў 10 настаўнікаў за актыўную працу ў сваім асяроддзі.
- Харавы калектыў гайнаўскага аддзела БГКТ пад мастацкім кіраўніцтвам Міхаея Кісялеўскага рыхтуе новую праграму, з якою плануе першы раз выступіць на навагоднім балю.
- Беластоцкае таварыства культуры выдала даведнік пад загалоўкам «Музеі Белавежы». Даведнік мае 36 старонак, на якіх знаходзяцца інфармацыі і ілюстрацыі з прыродазнаўчага музея і рэгіянальнага Беларускага этнаграфічнага музея. Аўтарамі гэтай публікацыі з'яўляюцца Чэслаў Аколаў і Уладзімір Гацута.
- Дубяжынскі драмгурток падрыхтоўвае п'есу Янкі Купалы «Паўлінка». З ёю выступіць на элімінацыях бельскага аддзела БГКТ.
- Драмгурток гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку прыступіў да падрыхтоўкі п'есы Алеся Барскага «Гарадскія госці».
- Мясцовыя ўлады ў Семяноўцы (Гайнаўскі павет) супольна з аддзелам БГКТ у Гайнаўцы з нагоды Дня настаўніка 21-га лістапада арганізавалі ўрачыстую вечарыну.
- 29-га лістапада ў памяшканні ГП адбылася першая канферэнцыя старшынь гурткоў БГКТ. На ёй з прамоваю выступіў сакратар ГП Янка Зенюк. (Аб канферэнцыі шырэй напішам у наступным нумары «Нівы»). (мх

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### НАРАДА Ў БЕРЛІНЕ

2 снежня 1970 года ў Берліне адбылася нарада Дарадчага палітычнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе.

Удзельнікі нарады абмеркавалі наступныя справы:

— умацаванне бяспекі і развіццё мірнага супрацоўніцтва ў Еўропе;

— абвастрэнне сітуацыі ў раёне Індакітая;

— сітуацыя на Бліжнім Усходзе;

— агрэсія каланізатараў супраць Рэспублікі Гвінеі.

Пасля заканчэння нарады апублікаваны дакументы нарады, якія датычаць вышэй указаных спраў.

Берлінская нарада шырокім рэхам адбілася ва ўсім свеце. Каментатары сцвярджаюць, што апублікаваныя дакументы выдадзены ў спакойным, але адначасова і станоўчым тоне.

Польскую дэлегацыю на нараду ўзначальваў Першы сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка, члены Палітбюро ЦК ПАРП — старшыня Савета Міністраў Юзэф Цыранкевіч, сакратар ЦК ПАРП Зэнан Клішка і міністр замежных спраў Стэфан Ендрыхоўскі.

### ПАСЛЯ ВІЗІТУ

На пасяджэнні французскага ўрада прэм'ер Шабан-Дэльмаз і міністр замежных спраў Шуман склалі справаздачу аб сваім візіце ў Польшчы. У аб'яўленым пасля пасяджэння камюніке сцвярджаецца, што Савет Міністраў лічыць, што гэты візіт з'яўляецца не падлягаючым дыскусіі поспехам.

### НАЙВЯЛІКШЫ ЎЗРОСТ ЦЭН

Дэпартамент сельскай гаспадаркі ЗША апублікаваў рапарт, у якім сцвярджаецца, што ў 1970 годзе цэны харчоў у Злучаных Штатах павялічыліся на восем працэнтаў. Быў гэта на працягу апошніх 20 год найвялікшы ўзрост цэн харчоў у ЗША. Рапарт сцвярджае таксама, што гэтая тэндэнцыя ўтрымаецца ў бліжэйшым часе.

### ХОЛАД З СТАЛІЦЫ БЕЛЬГІІ

У сталіцы Бельгіі адбылося пасяджэнне Камітэта тэрмаядзернага планавання і так званага Камітэта абароны НАТО. Прыняты пастановы, якія накіраваны на павелічэнне гонкі ўзбраенняў і напружання ў Еўропе.

Еўрапейскія краіны НАТО пастанавілі павялічыць свой фінансавы ўклад на ўтрыманне і на разбудову ўзброеных сіл на працягу бліжэйшых 5 год. Камітэт тэрмаядзернага планавання абнізіў парог прымянення тэрмаядзернай зброі, што можа абазначаць прымяненне гэтай зброі ўжо на першым этапе ваеннага канфлікту.

### МАРЫНА ВЛАДЗІ...

...вядомая французская актрыса рускага паходжання выйшла замуж за Уладзіміра Высоцкага, вядомага маскоўскага акцёра тэатра на Таганцы.

(ак)



## БССР

### ДНІ РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Ад 25 лістапада да канца месяца ў Прыбужскім краі працягваліся *Дні роднай літаратуры*. Прыгранічны Брэст наведалі празаікі і паэты: Янка Брыль, Язэп Семяжон, Сяргей Грахоўскі, Іван Грамовіч, Анатоль Грачанікаў, крытык Уладзімір Калеснік. Літаратурны вечар адбыўся таксама ў Баранавічах. Перад працоўнымі горада выступілі: С. Александровіч, Алег Лойка, Юрась Свірка, Уладзімір Паўлаў. Іншая група пісьменнікаў пабывала на Піншчыне.

Усюды, куды б ні завіталі майстры беларускага слова, іх сустракалі з вялікай радасцю і добразычлівасцю.

### БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ Ў СВЕЦЕ

Нядаўна рэспубліканская база Белкнігагандлю адправіла заказчыкам краін народнай дэмакратыі, а таксама Англіі, ЗША і Японіі раман Івана Шамякіна *«Трывожнае шчасце»*. Англійскія сацыёлагі ў другі раз запатрабавалі *«Канстытуцыю БССР»*.

У 73 краіны свету экспартуюць свае выданні беларускія паліграфісты. Папулярнасцю ў зарубежных чытачоў карыстаюцца творы майстроў мастацкага слова — Янкі Купалы і Якуба Коласа, Пятруся Броўкі і Аркадзя Куляшова, Івана Мележа і Міхася Лынькова ды іншых вядомых паэтаў і празаікаў.

Усяго ў гэтым годзе на розныя кантыненты адпраўлены пасылкі з кнігамі 253 новых назваў, выдадзенымі ў БССР.

### ПАД МІНСКАМ

Непадалёк ад Мінска, у Калодзішчах, заканчваецца будаўніцтва новай радыётэлевізійнай станцыі. Вышыня тэлевізійнай мачты 350 метраў. Яна не ўступае самым высокім у рэспубліцы.

У пачатку студзеня 1971 года новая радыётэлевізійная станцыя ўступіць у строй. Адсюль пачнецца трансляцыя трэцяй праграмы Беларускага тэлебачання.

### НАД НЁМАНАМ

У Гродне ўступіў у эксплуатацыю першы энергаблок цеплаэлектрастанцыі № 2. Яго магутнасць — 60 тысяч кілават. Гродненская цеплаэлектрастанцыя будзе даваць у 12 разоў больш энергіі, чым усе электрастанцыі Беластоцкага ваяводства ў 1938 годзе. Яе пабудова распачалася ў верасні 1966 года.

### Я. К. ЦІКОЦКІ

На 77-ым годзе жыцця пасля непрацяглай хваробы памер буйны беларускі кампазітар, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР *Яўген Карлавіч ЦІКОЦКІ*.

Нарадзіўся Я. К. Цікоцкі 26 снежня 1893 года ў Пецярбургу ў сям'і ваеннага марака. З 1920 года ўсё яго жыццё цесна звязана з Беларуссю, з развіццём яе музычнага мастацтва. Ён аўтар оперы *«Алеся»* і *«Заранка»*, шасці сімфоній, вакальна- сімфанічнай паэмы *«Буравеснік»*, шэрагу іншых сімфанічных, харавых і вакальных твораў.

(вр)



## ПОЛЬШЧА

### БАРБУРКА

3 снежня, напярэдадні традыцыйнага свята польскіх шахцёраў — Барбуркі, адбыліся на Шлёнску ўрачыстасці з удзелам I сакратара ЦК партыі Уладзіслава Гамулкі — ганаровага шахцёра ПНР. На цэнтральнай урачыстасці з аказіі Дня шахцёра, якая адбылася ў Забжы, тав. Уладзіслаў Гамулка выступіў з прамоваю.

Прамоўца перадаў польскім шахцёрам з нагоды іх свята найбольш сардэчныя пажаданні. Далей падкрэсліў ён вялікія дасягненні Народнай Польшчы, асабліва на працягу апошніх 5 гадоў нашага развіцця, а таксама вялікі ўдзел у гэтых дасягненнях нашых шахцёраў. Выдабыццё каменнага вугалю ад 1965 года ўзрасло з 118,8 мільёнаў тон да 140 мільёнаў тон. Выдаткі на развіццё выдабыўчай прамысловасці ў мінулай пяцігодцы дасягнулі суму 80 мільярдаў злотых, што складае 22 працэнты цэласці нашых выдаткаў на развіццё прамысловасці. Указваючы на патрэбу далейшага пабольшвання выдабыцця вугалю, прамоўца падкрэсліў таксама неабходнасць большай ашчаднасці гаручага, асабліва дарогаю мадэрнізацыі ўстарэлых энергетычных устройстваў. У далейшай частцы свайго выступлення тав. У. Гамулка ўказаў на шэраг выступаўшых яшчэ ў шахцёрскай прамысловасці недахопаў і на неабходнасць як найхутчэйшага іх выпраўлення.

Далей I сакратар ЦК ахарактарызаваў сітуацыю нашай сельскай гаспадаркі і стан забеспячэння рынка сельскагаспадарчымі прадуктамі. З увагі на неспрыяючыя атмасферычныя ўмовы наступіла ў нас памяншэнне жывёлагадоўчай прадукцыі, а ўслед за тым памяншэнне пастаўкі некаторых сельскагаспадарчых прадуктаў — асабліва мяса. У чэрвені гэтага года мелі мы на 910 тысяч штук свіней і на 205 тысяч штук буйнай рагатай жывёлы менш, чымсьці ў аналагічным перыядзе мінулага года. У сувязі з тым пагоршылася забеспячэнне рынка мясам. Выступаючыя цяжкасці трэба аднак бачыць у належных прапорцыях. Спажыццё мяса ў пералічэнні на 1 жыхара ўзрасло ў нас у вялікай меры: з 37,7 кілаграма ў 1955 годзе да 44,2 кг у 1965 годзе і да 52,6 кг у 1967 годзе. У гэтым годзе спажыццё мяса ўтрымаецца ў асноўным на ўзроўні мінулага года.

Утрыманне мяснога рынка на мінулагоднім узроўні патрабавала вострага змяншэння нашага экспарту мясных прадуктаў да іншых краін. Зараз размеры гэтага экспарту напалову меншыя, чымсьці на пачатку гэтай пяцігодкі. Далейшае змяншэнне экспарту мяса з'яўляецца немагчымым з увагі на нашыя забавязанні ў адносінах да капіталістычных краін. У выніку абмежаванняў экспарту мяса даходы дзяржавы ў гэтай галіне не папаўняюць ужо выдаткаў на імпарт з-за мяжы збожжа і пашы. У сувязі з гэтым неабходнай з'яўляецца адбудова і далейшы ўзрост жывёлагадоўлі. Патрабуе гэта павышэнне яе рэнтабельнасці.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### З ПАСЯДЖЭННЯ ПВРН

У мінулым тыдні прэзідыум Ваяводскай рады сабраўся на чарговае пасяджэнне. Абмяркоўвалася справаздача ваяводскага праўлення Галоўнай тэхнічнай арганізацыі, якая рыхтуецца да ваяводскай канферэнцыі. Члены Прэзідыума ВРН звярнулі ўвагу на неабходнасць навязання больш блізкага кантакту НОТ з органамі ПВРН, а таксама на чарговыя заданні, якія стаяць перад інжынерна-тэхнічнымі кадрамі пры ўвядзенні новай сістэмы матэрыяльнага зацікаўлення.

На гэтым пасяджэнні прэзідыума быў зроблены падзел інвестыцыйных сродкаў на 1971 год для розных аддзелаў, аб'яднанняў і ўстаноў, падпарадкаваных ПВРН, зацверджана была гарманаграма працы над планамі і бюджэтам на 1971 год, а таксама была прынята пастанова аб канцэнтрацыі аўтатранспарту ва ўстановах камунальнай гаспадаркі.

### З'ЕЗД ПАЖАРНІКАЎ

У суботу ў Беластоку адбыўся IV акруговы з'езд Саюза добраахвотных пажарных каманд. На з'ездзе прысутнічалі член прэзідыума Галоўнага праўлення Саюза пажарнікаў, пасол у Сейм Ян Рызнар і старшыня ПВРН С. Жмійка.

На з'ездзе шмат гаварылася аб дасягненнях добраахвотнага супрацьпажарніцтва, аб цяжкасцях у барацьбе з пажарамі, аб эфектыўнасці працы добраахвотных пажарных каманд, а таксама аб добрай працы жаночых і маладзёжных каманд. Удзельнікі з'езда выбралі новае акруговае праўленне і дэлегатаў на краёвы з'езд.

### 25 ГОД ВЗДЗ

Урачыста адзначылі 25-годдзе існавання Ваяводскага цэнтра прафесіянальнага ўдасканальвання ў Беластоку настаўнікі, грамадскія дзеячы і працаўнікі. На ўрачыстым пасяджэнні, якое адбылося з гэтай нагоды ў тэатры імя А. Вянгеркі, прысутнічалі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і грамадскіх улад. За сваю дагэтуляшнюю дзейнасць Ваяводскі цэнтр прафесіянальнага ўдасканальвання атрымаў ганаровы дыплом Саюза ЗДЗ. Многія дзеячы ВЗДЗ атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды.

### АЛІМПІЯДА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ВЕДАЎ

5 снежня ў беластоцкім Доме Тэхніка адбылася чарговая IX ваяводская алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў. У алімпіядзе ўдзельнічала 57 індывідуальных удзельнікаў і 19 калектываў з сельскагаспадарчых школ. Сярод калектываў найлепшымі былі: калектыў ПР з Багданак (Беластоцкі павет), калектыў з Баброўкі (Манецкі павет) і калектыў з Мальца (Сямяціцкі павет). Індывідуальным чэмпіёнам аказалася 17-гадовая Б. Даўжынская з Дабрынёўкі. Другое месца заняў К. Сянькоўскі з Сухой Вёскі (Сувальскі павет), а трэцяе — 16-гадовы С. Ваінскі з Бранска.

Пераможцы ваяводскай алімпіяды паедуць як прадстаўнікі нашага ваяводства на Цэнтральную алімпіяду сельскагаспадарчых ведаў.

(яч)




**Niedziela 13.XII.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja prac przy obsłudze inwentarza". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Wyprawa na biegun" cz. I. 9.30 Dla młodych widzów: „Żyrafa w oknie" — film fab. czechosłowacki. 10.45 „Panowie w cylindrach" — film fab. amerykański. 12.20 Dziennik. 12.30 „PROM". 13.20 „Przemiany". 13.50 „W Rydlówce" („Kraków mało znany"). 14.20 „Piosenka dla Ciebie". 15.10 „W obiektywie". 15.40 „Tele-Uniwersjada". 16.40 Finałowe spotkanie Ligi Koszykówki. 17.20 „Tatrzańska jesień" — rep. film. („Folklor żywy"). 17.50 PKF. 18.00 Estrada Literacka: G. Byron — „Don Juan". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Koncert laureatów VIII Ogólnopolskiego Festiwalu Piosenki i Piosenkarzy Studenckich. 21.20 „Na miłość nigdy nie jest za późno" — film fab. węg. 22.35 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 14.XII.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 „Na Kaszubach" — program regionalny w wyk. Zespołu Pieśni i Tańca Ziemi Bytowskiej. 18.25 „Eureka". 19.00 „Kraj Białego Półksiężyca" —rep. cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: F. Garcia Lorca — „Panna Rosita". 21.35 „Kino Filmów Animowanych". 22.00 „Panorama Literacka". 22.25 Dziennik.

**Wtorek 15.XII.**

9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — St. Wyspiański „Noc listopadowa". 10.30 „Alfa Romeo i Julia" — film fab. węg. 12.00 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Pracujemy w Zespole Przysposobienia Rolniczego" — Organizacja Konkursu Wychowu. 14.25 Przerwa. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TV Ekran Młodych. 18.25 Współdziałanie". 19.00 „Kraj Białego Półksiężyca" — rep. cz. II. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Alfa Romeo i Julia" — film fab. węg. 21.35 „Polska zza siódmej miedzy" — rep. 22.05 „Spotkanie z J. Brelem" — program rozr. 22.25 Dziennik.

**Środa 16.XII.**

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Kryzys". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Wielka Emigracja". 10.30 „Wyzwanie — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Ważne fermentacje". 12.25 Przerwa. 12.45 „Wybieramy zawód". 13.05 Przerwa. 15.20 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Nauka przez szybkę („Telewizja i Ty"). 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Perspektywy techniki" — rep. 18.00 „Obrońcy Stalingradu" — film radz., odc. I („Płoną stepy"). 18.30 „Na styku: przemysł — rzemiosło" — rep. 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wyzwanie" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 „Światowid". 21.25 Koncert Orkiestry Polskiego Radia i TV w Łodzi. 22.00 PKF. 22.10 Dziennik.

**Czwartek 17.XII.**

8.15 Matematyka w szkole: „Metodyczne ujęcie nauki o izometriach w przestrzeni" — wariant II. 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — „Karol Szymanowski". 9.30 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „W starej kopalni". 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Mechanizacja nawożenia nawozami mineralnymi" cz. I i II. 14.00 Przerwa. 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.45 „Zrób to sam". 18.00 „Nasi daleko i blisko". 18.25 „Muzyka krajów nadbałtyckich". 18.55 „Przypominamy, radzimy". 19.00 TV Kurier Lubelski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra: F. Durbridge — „Melissa" odc. III. 21.15 „Lina" — rep. 21.45 „Przegląd muzyczny". 22.15 „Lektury współczesne". 22.25 Dziennik.

**Piątek 18. XII.**

9.00 „Wielkie burze" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"). 9.25 „Anioł błogosławionej śmierci" — film fab. czechosł. 10.55 Dla szkół: (kl VII) Wychowanie obywatelskie — „Wzorowy ekspedient". 11.25 Przerwa. 15.20 i 23.20 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.35 „Nie tylko dla pań". 18.00 „Za kierownicą". 18.30 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.50 TV Kurier Mazowiecki. 19.05 „Kraj Białego Półksiężyca" — rep. cz. III. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wielkie burze" — film TV franc. („Szczęście małżeńskie"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: E. Rostand — „Cyrano de Bergerac". 23.00 Dziennik.

**Sobota 19.XII.**

9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Nasi sąsiedzi". 10.25 „Jestem niewinny" — film fab. ameryk. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Kawaler Sztandaru Pracy". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Od Quebeck'u do Vancouveru". 13.15 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 TV Kurs Rolniczy: „Odchów jałowizny przy remoncie stada". 15.45 Informacja dla służby rolnej. 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów". 17.45 „Spotkania z przyrodą". 18.10 „Piosenki Stanisława Pożłakowa". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc". 19.30 Monitor. 20.20 Kino Interesujących Filmów: „Jestem niewinny" — film fab. ameryk. 21.50 Dziennik. 22.10 „Przeboje z Moskwy" — program rozr. 22.55 „Podróże, podróże...".




**Piątek, 11 grudnia**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 8.40 Film fab. 10.20 W salach Akademii Sztuki. 14.30 Program dnia. 14.35 Nowiny. 14.45 Spektakl TV dla dzieci. 16.00 Koncert uczniów. 16.50 TV teatr miniatur. 17.30 Czas. 18.00 Hokej. Szwecja — Czechosłowacja. 20.15 Koncert. 21.25 Nowiny.

**Sobota, 12 grudnia**

8.00 Dla dzieci. 8.30 Szkatułka muzyczna. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Turniej muzyczny. 10.00 Jutro — wybory do sądów ludowych BSRR. 10.15 Film animowany dla dzieci. 11.00 Spotkania robocze. 11.30 Uniwersytet ludowy. 13.00 Film dokument. 13.50 TV szkoła mechanizacji rolnictwa. 14.25 W świecie zwierząt. 15.25 Poszukiwania. 16.00 Nowiny. 16.05 Kompozytor M. Bogusławski. 17.00 Spektakl TV. 18.30 Czas. 19.00 Noce trwogi w Samarze. Seryjny film TV. I seria. 20.40 Koncert. 21.15 Nowiny.

**Niedziele, 13 grudnia**

8.00 Kalendarz TV. 8.30 Zdrowie. 9.05 Film animowany dla dzieci. 9.15 W świecie obrazów. 10.00 Dla uczniów. 12.00 Dla wsi. 12.25 Spotkania muzyczne. 13.00 Dla żołnierzy. 13.30 Transmisja sportowa. 14.15 Kroki pięciolatki. 14.30 Klub filmowy. 15.30 Włodarze bez masek. 16.00 Hokej. Szwecja — ZSRR. 18.30 Czas. 19.00 Noce trwogi w Samarze. II seria. 20.10 Przy płomyku.




## РЭПЕРТУАРНАЯ ПАДБОРКА

# ВЕЧАРАМ ПАГОДНЫМ

**Сл. і муз. А. Шыдлоўскага**

Вечарам пагодным добра у цішы,
Заспяваем дружна песню ад душы,
Як калісь спявалі ў лесе ля кастроў,
Ды успомнім сёння партызан-сяброў. (2 разы)

Помнім, як напалі ворагі на нас,
Гэта быў трывожны і рашучы час, —
У агні палалі вёскі, гарады,
Закрывалі хмары край наш малады. (2 разы)

Падняліся хвалі гневу па зямлі,
За краіну людзі смела ў бой пайшлі,
І прыйшла расплата ворагу за кроў:
Нам жадаў ён смерці — сам яе знайшоў. (2 разы)

Адгрымела бура, скончана вайна,
Над краінай нашай зноў стаіць вясна,
Дзе ні глянеш, праца вольная кіпіць,
І народ наш волат смела ўдаль глядзіць. (2 разы)







# ОЙ, ШУМЯЦЬ ЛЯСЫ ЗЯЛЁНЫЯ

*Музыка Ю. Семянякі,*
*Словы А. Сіткоўскага*

Ой, шумяць лясы зялёныя,
Рэчкі быстрыя цякуць.
Над дубкамі ды над клёнамі
Хмаркі-лебедзі плывуць.
Гарманіст пагодным вечарам
Крануў з чуласцю рады —
Разам з песняю дзявочаю
Славіць рэкі і сады.

Дні ўжо з грознымі вятрыскамі
Больш не страшны вам, палі,
Збажына паклоны нізкія
Б'е лясам аж да зямлі.
Ад вады нясе прахладаю,
Пахнуць мёдам вецяркі,
І святло паміж прысадамі
Льюць электраагенькі.

Ой, шумяць лясы зялёныя,
Рэчкі быстрыя цякуць.
Над дубкамі ды над клёнамі
Хмаркі-лебедзі плывуць.

Ты расці, красуй над нівамі,
Малады цяністы гай,
Ты расці, красуй, шчаслівы мой
Неабсяжны мірны край.

# СОНЦА ЗАЙШЛО ЗА ЦЁМНЫ ЛЯСОК

**Сл. і мел. А. Шыдлоўскага**

**Сонца зайшло за цёмны лясок,**
**Выйдзі, дзяўчына, хоць на часок.**
**Вечар пагодны вабіць красой,**
**Хочацца быць мне разам з табой.**

**Глянь, як прыгожа, ўсюды вясна!**
**Дзіўнай красой чаруе яна.**
**Як жа прыемна, радасна жыць,**
**Сэрца так прагне шчыра любіць.**

**Тонуць у белым цвеце сады,**
**Шэпчуць бярозы, шэпчуць дубы.**
**Чуеш, пяе ў гаі салавей?**
**Выйдзі, галубка, выйдзі хутчэй.**

**Сядзем дзе ціха ліпы шумяць,**
**Песні аб шчасці будзем спяваць.**
**Выйдзі, дзяўчына, выйдзі, прашу,**
**Ўсё, што на сэрцы, сёння скажу.**




# ВЕЧАРКОМ ЗА РЭЧКАЮ . . .

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

Вечарком за рэчкаю... Эх!
Вечарком за рэчкаю
Песенька тучыць.
Выйду я на ганачак, (2)
Маці, не крычы,
Эх, ды, маці, не крычы!

Мілага, прыгожага... Эх!
Мілага, прыгожага
Ўспамінаю я,
Пра яго і складзена (2)
Песенька мая,
Эх, ды песенька мая.

Дзяўчыну не кіне ён... Эх!
Дзяўчыну не кіне ён,
Хоць і сам не тут:
Ён паехаў восенню (2)
Ў горад, у інстытут,
Эх, ды горад, ў інстытут.

А учора з горада... Эх!
А учора з горада
Ліст ён мне прыслаў,
Што пры развітанні (2)
Мілай абяцаў,
Эх, ды мілай абяцаў.




# ◆ РУЧНІКІ ◆

**Сл. В. Вярбы, муз. М. Пятрэнкі**

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі,
— Пакажы, Алёна, броду земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку.

— Адчапіся, хлопец, едзь абы куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік.
Упусціла Лена беленькі ручнік.

— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,
Бо плывуць знікаюць ручнікі з вачэй.
— Любая Алёна, я вады баюсь,
Пацалуй спачатку, бо я утаплюсь.

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалавала Лена Янку над вадой,
Стала ціха, ціха на ўсёй зямлі,
Па рацэ далёка ручнікі плылі.




# ◆ ЦІХІ ВЕЧАР ◆

**Музыка Г. Вагнера**
**словы А. Русака**

Ціхі вечар у сузор'і
Над сялом плыве,
Засвяціліся агнямі
Росы на траве.

Не сама к табе прыйшла я, —
Сэрца прывяло,
А сваймý я сэрцу веру, —
Шчасце тут знайшло.

Не пытайся аб каханні,
Бо не адкажу,
Толькі знаю, што адна я
Без цябе тужу.

Толькі знаю, што пазнала
Радасць я з табой,
Толькі знаю, што адзіны
Ты любімы мой.

Заўтра мы насустрач сонцу
Выйдзем у палі,
Дзе красою веснавою
Нівы расцвілі.

А сягоння ясны месяц
Выплыў за сяло,
Не сама к табе прыйшла я, —
Сэрца прывяло.




# ОЙ, РЭЧАНЬКА, РЭЧАНЬКА

— Ой, рэчанька, рэчанька, —
Заспявала дзеванька.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Заспявала дзеванька. (2)

А таму, што малада,
Вішняй расцвіла ў садах.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Вішняй расцвіла ў садах. (2)

А таму, што ўсюды май, —
Адказаў ёй рэхам гай,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Адказаў ёй рэхам гай. (2)

А таму, што русы косы,
Буйна высыпалі росы.
Ай, люлі, люлі, люлі,
Буйна высыпалі росы. (2)

А таму, што вочы сіні,
Пакахаў яе хлапчына,
Ай, люлі, люлі, люлі,
Пакахаў яе хлапчына. (2)



 

Пачатак на стар. 1




Вось у чым прычына! Ці гэтага ўжо хапіла, каб Тацяна Тышка, як кажуць, вельмі бойкая жанчына, адразу кінулася на сваю суседку? Што ж, паслухайма і яе:

**„На весну г.г. Кацярына Шульжык не дазволіла нам выгнаць каровы. Калі 8 мая 1970 года я выбірала бульбу з копцаў, яна якраз тудою праходзіла і, спыніўшыся ля мяне, адазвалася: „Што к...а, ці толькі я адна не дазваляю табе выганяць карову?" А пасля ўдарыла мяне кіем па плячах, дык я вырвала ёй гэты кій і яе таксама ўдарыла..."**

Сказана гэта даволі далікатна. Сямяціцкі лекар, які выставіў Кацярыне Шульжык пасведчанне, сцвердзіў сляды пабояў на галаве і на левай далоні, а пабочная асоба, жыхар Вычулак, Аляксей Пытэль, гаварыў перад судом:

**„Я тады знаходзіўся на вуліцы ў Вычулках, можа 100 метраў ад хат абвінавачаных. Найперш пачуў я крык дзвюх жанчын, якія сварыліся. Адна другую абзывала зневажальнымі словамі. Паглядзеўшы ў гэты бок, я ўбачыў Кацярыну Шульжык, якая ўцякала вясковай вуліцай, а зараз за ёю бегла Тацяна Тышка і біла яе кіем па галаве. Кацярына Шульжык упала на зямлю. Абвінавачаная пакінула тады яе, а сама павярнулася да свайго дому. Калі Шульжык устала і шла далей, тады пачуў я голас Міхася Тышкі, які крычаў да сваёй маці: „Мама, дай яшчэ той старой к...е". Тады Тацяна Тышка вярнулася да Кацярыны Шульжык і зноў біла яе кіем, на гэты раз па руцэ".**

Проста не хочацца ўсяго гэтага перапісваць і паўтараць. І дзіўна, што сталыя ўжо людзі не сароміліся публічна перад судом, перад чужымі людзьмі, абзываць сябе ўзаемна гадкімі словамі і з нейкім задавальненнем абкідацца смярдзючым балотам.

То ж і Шульжыкі і Тышкі выгадавалі ўжо свае дзеці, маюць забяспечаную старасць. Дык за што, здавалася б, ім змагацца, за што помсты шукаць?

Суддзя Э. Падгорскі, які адначасова з'яўляецца старшынёю павятовага суда ў Сямяціччах, гаворыць:

— У нас такіх спраў на пуды. Вось пры вас была тут адна такая жанчына, якая хоча пазбыцца са сваёй хаты зяця з дачкой і іх дзецьмі.

Што ж, суд і ёсць на тое, каб разбіраўся ў людскіх справах, каб бараніў і грамадзян, і дзяржаву перад злачынствам.

Шульжыкі і Тышкі сустрэліся другі раз перад судовым абліччам 21 кастрычніка 1970 года. Сямяціцкі суд знайшоў амаль што саламонавае выйсце іх справы: загадаў Тышкам перапрасіць Кацярыну Шульжык і вызначыў ім год часу на практычную пробу іх прымірэння, а дадаткова абавязаў Тацяну і яе сына, Міхася Тышкаў, заплаціць па 300 злотых ад кожнага на фонд Польскага камітэта грамадскай дапамогі.

Гэты прыгавор выдаўся Шульжыкам вельмі лагодны. Іх пачуццё справядлівасці не атрымала дзяржаўнага пацвярджэння. Дык рашылі адклікацца да ваяводскага суда.

І зноў многім людзям прыдзецца траціць час, нервы і грошы, зноў з аднаго і другога боку паплывуць вульгарныя воклікі.

Людзі, чаго ж вам па судах бадзяцца! Навошта паглыбляць узаемную варожасць?

Гэтыя ж справы можна паспяхова ўладзіць у сябе на месцы, у вёсцы, у грамадзе, пры дапамозе, скажам, палюбоўных грамадскіх судоў, якія існуюць пры грамадскіх камітэтах Фронта адзінства народа. А калі іх няма, дык трэба як мага хутчэй стварыць такія грамадскія суды.

Праўда і справядлівасць толькі тады маюць поўныя ўмовы для развіцця, калі сярод людзей існуе згода, узаемнае разуменне і давер.

ВІКТАР РУДЧЫК

## ГАЛЯ НЕ НАПІСАЛА ЎСЯЕ ПРАЎДЫ

*Я пазнаёмілася з пісьмом Галі; якая мае даволі вялікія клопаты ў школе. Як вынікае з пісьма, у першым класе вучылася яна нядрэнна. Па невядомых прычынах у другім класе раптоўна пачала яна атрымліваць двойкі.*

*Я таксама перажыла падобную трагедыю. У справе Галі магу сказаць, што сталася гэта, відаць, таму, што дзяўчына ў першым класе ліцэя была іншая. Паходзіць яна з вёскі. Прыйшла ў горад, і першы год яна толькі прывыкала да гарадскога, іншага жыцця. Напэўна, не была яна такая адважная, як цяпер. Напэўна, не ведала яшчэ столькі знаёмых, як зараз. Падазраю, што не напісала яна ўсяе праўды.*

*Думаю, што Галя пазнала нейкага хлопца, а праз яго і іншых. Ад гэтага, па-мойму, і пачалася трагедыя. Тое, што чытае яна многа кніжак, не паможа Галі паправіць двоек.*

*Мне здаецца, што Галя павінна змяніць сваё асяроддзе і вызваліцца з-пад яго ўплываў. Павінна яна папрасіць кіраўніка інтэрната, каб дапамог ёй перайсці ў іншую «залу», дзе б сяброўкі маглі Галі дапамагаць у навуцы і не толькі. Павінна яна пазрываць усе знаёмасці ў горадзе. Веру, будзе ёй цяжка, але толькі гэта яе выратуе.*




*Дарагая рэдакцыя, гэтыя рады, якія я напісала, служылі калісьці і мне. Была я ў зусім падобным становішчы. Я веру, што калі Галя паступіць так, як паступіла я, будзе хацецца ёй жыць і будзе больш асцярожная з некаторымі «сябрамі» з горада.*

*Валя з Гайнаўкі*

А вось што піша вучаніца з агульнаадукацыйнага ліцэя № 10 у Гайнаўцы Мар'я Казлоўская:

*Дарагая Галя!*

*Прачытаўшы тваё пісьмо, прыйшлі мне на думку розныя пытанні. Адчуваеш сябе пакрыўджанай (мо лёсам?) і шукаеш выйсця, чакаеш дапамогі.*

*Але падумай, ці ты шчыра і ўсё апісала ў пісьме? Ці ты прадумала свае планы на будучыню, паступаючы ў агульнаадукацыйны ліцэй? Ці маючы такія клопаты, аб якіх пішаш у пісьме, ты звярталася з просьбай дапамагчы да праўлення класнага або школьнага самакіравання або проста да сяброў і сяброўак?*

*Прадумай усё добра. Мне здаецца, што ты мела нейкі «жыццёвы пералом» перад тым, як апусцілася ў навуцы. Можа дрэнны ўплыў сяброўак?*

*Мне здаецца, што няма чаго заламвацца. Напэўна, знойдуцца такія, якія захочуць табе дапамагчы, толькі трэба іх папрасіць.*

*Галя! Усё можна яшчэ пачаць нанава. Нельга так адразу адмаўляцца ад усяго і ўсіх. Калі табе раз не ўдасца, паспрабуй яшчэ раз.*

*З прывітаннем добразычлівая да цябе Марыся Казлоўская*

Вышэй публікуем два лісты, напісаныя вельмі спакойна. Хаця Валя спасылаецца на свае перажыванні, падобныя да Галіных, то ўсё ж пра іх нам не піша. А нам здаецца, што шчыры расказ Валі аб яе перажываннях, ды як яна з гэтага выйшла, мог бы ў многім дапамагчы Галі.

Пісьмо Марысі кароткае, шчырае. Марыся проста не бачыць праблем у такім святле, як Галя.

Нас цікавяць таксама выказванні вучняў і не толькі вучняў аб падобных справах у вашых асяроддзях. Яны, напэўна, не такія простыя, але ж вы сустракаецеся з імі ў штодзённым жыцці. Немалая ў гэтым роля маладзёжных арганізацый, добрых вашых сяброў, настаўнікаў. Пішыце аб іх, чакаем.




На тэрыторыі ГРН Рафалоўка, Беластоцкага павета, знаходзіцца 11 вёсак, 669 гаспадарак і 2381 жыхароў. Адміністрацыйна ГРН займае абшар 9251 гектараў. Зямельныя ўгоддзі займаюць 2798 га, лугі і пасбішчы — 1359 га, збожжавыя культуры 1562 га, акаповыя — 482 га і кармавыя (пастэўныя) 289 га.

Сяляне ўсё больш пачалі прымяняць штучных угнаенняў: і так калі ў 1968 годзе на 1 гектар высявалі 48 кілаграмаў НПК у чыстым складзе, дык у 1970 годзе 85 кілаграмаў НПК. У сувязі з тым значна павысіліся ўраджаі: чатыры асноўныя збожжавыя культуры далі 22,7 цэнтнераў з 1 гектара, а бульбы — 172 цэнтнеры. У сувязі з загаспадараннем лугоў і сенажацяў павысілася колькасць быдла на 100 га зямельных угоддзяў і складае яна лік 396 штук. На кожныя 100 гектараў прыпадае тут па 49 штук свіней.

У 1969 годзе сяляне рафалоўскай грамады прадалі дзяржаве 212 тон мяса і 472 тоны збожжа. Толькі за тры кварталы 1970 года прадана 992 000 літраў малака, што складае лік на 10 працэнтаў больш ў параўнанні з аналагічным перыядам у мінулым годзе.

Сяляне штогод поўнасцю выконваюць свой план кантрактацыі збожжа. План гэты складае больш 400 гектараў зямельных угоддзяў.

У грамадзе дзейнічае 6 сельскагаспадарчых гурткоў, якія згуртоўваюць 930 членаў, і адна МБМ. Машынны парк МБМ і сельгасгурткоў акрэсліваецца вартасцю 5.071.000 злотых. Міжгуртковая машынная база загаспадарвае зямельныя ўгоддзі ПФЗ, прадукуе будаўляныя матэрыялы, вядзе ўслуговую дзейнасць для паасобных гаспадарак.

Гаспадары з грамады Рафалоўка да 1975 года пастанавілі атрымаць па 25 цэнтнераў з 1 гэктара 4-ох асноўных збожжавых культур, павялічыць колькасць высявання мінеральных угнаенняў да 175 кг НПК у чыстым складзе на 1 гектар і павялічыць колькасць пагалоўя быдла да 42 штук і свіней да 55 штук на 100 га зямельных угоддзяў.

**Янка Цялушэцкі**

## ДЭВІЗ ВУЧОНАГА ГАСПАДАРА

Паводле доследаў Інстытута кніжкі і чытальніцтва Нацыянальнай бібліятэкі, а таксама ваяводскіх бібліятэк у Беластоку, Кельцах, Лодзі, Любліне, аблічана, што сельскагаспадарчыя кніжкі чытае тут не больш 10 працэнтаў гаспадароў. Статыстычны гаспадар выдаў у мінулым годзе на пакупку сельскагаспадарчых кніжак каля 1 зл 60 гр.

Найбольш выдаюць на пакупку сельскагаспадарчай літаратуры гаспадары ў ваяводствах: Катавіцкім, Пазнанскім, Вроцлаўскім і Шчэцінскім. Найменш у ваяводствах: Жэшоўскім, Келецкім, Люблінскім, Кашалінскім. Якое шчасце, што Беластоцкага ваяводства няма сярод тых найгоршых. Але Беластоцкае ваяводства знаходзіцца сярод горшых па чытальніцтву сельскагаспадарчых і вясковых газет. Разам з Беластоцкім тут называем Лодзінскае, Люблінскае, Жэшоўскае.

Кніжкі і газеты — гэта, вядома, найбольшая крыніца ўсялякіх ведаў, таксама па сельскай гаспадарцы. Не будзе ніколі ў цяперашні час добрым гаспадаром той, хто не будзе звычайна вучыцца і чытаць, таксама пра гаспадарку, ды як найлепш яе весці.

Разумнейшыя даўно ўжо гэтую вачавідную праўду зразумелі, але сумным фактам, асабліва частым у вёсках, з'яўляецца яшчэ ігнарацыя сельскагаспадарчай навукі і чытальніцтва, розных форм навучання, зразумела, пры дапамозе кніжкі, бо з неба ж розум і веды не ўпадуць.

З кніжкай рабіць кожны свой жыццёвы крок — вось дэвіз кожнага сучаснага польскага гаспадара, вучонага гаспадара, вартаснага грамадзяніна. (вл))

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „НІВУ"!

## НЕКАТОРЫЯ ФАКТЫ З ФАЛЬВАРКАЎ ТЫЛЬВІЦКІХ

У грамадзе Фальваркі Тыльвіцкія (Беластоцкі павет) пражывае 1878 жыхароў у 8 вёсках. Усіх гаспадарак 512. На тэрыторыі грамады знаходзіцца 3028 га зямельных угоддзяў, 1131 га сенажацяў і лугоў і 869 га лесу.

Сяляне абсяваюць 956 га азімінай, 856 га ярыною і 543 га бульбай і буракамі.

Асноўныя збожжавыя культуры далі ўраджай у сярэднім 17 цэнтнераў з 1 гектара, бульбы — 165 цэнтнераў з 1 га, сена — 44 цэнтнеры з 1 га.

Сяляне прадалі дзяржаве 277 тон збожжа, 1500 штук хатняй жывёлы і 1 953 000 літраў малака.

Усё больш і больш высейваецца мінеральных угнаенняў. Калі ў 1968 годзе на 1 гектар было высеяна 40 кілаграмаў НПК у чыстым складзе, дык у 1970 годзе колькасць іх узрасла да 63,5 кілаграмаў.

У грамадзе дзейнічае 6 сельскагаспадарчых гурткоў з 210 членамі. Вядучым гуртком з'яўляецца гурток у вёсцы Тапаляны. Да яго прылучыўся сельгасгурток з Патокі.

Я. Ц.




## СТРАХІ

Яшчэ гадоў дваццаць таму назад размовы аб страхах належалі да пастаяннага рэпертуару зімовых вечарынак. Можна было б нават сказаць, што „страхі" былі своеасаблівым народным літаратурным жанрам. Розніўся ён тым ад казак, што аб страхах расказвалася зусім сур'ёзна — як аб здарэннях, якія здарыліся расказчыку, яго суседу, сваяку, знаёмаму, камусьці з суседняй вёскі і г.д. Слухачы ў асноўным верылі ў страхі. Толькі некаторыя з сярод найбольш скептычных мужчын сумняваліся.

У марозны зімовы вечар у хаце было цёпла і ўтульна. У такі вечар, калі за акном стагнала снежная завея, людзі, што сабраліся ў хаце, з асаблівай асалодаю слухалі страшныя апавяданні аб тым, што калісьці здарылася з тым ці іншым жыхаром іх вёскі ў шчырым, бязлюдным полі. Апавяданні пра страхі згуртоўвалі людзей, узмацнялі іх пачуццё бяспекі ў супольнасці і пачуццё бязраднасці ў адзіноцтве.

Зараз пра страхі расказваюць мала і мала ёсць слухачоў, якія б у такія расказы верылі. Уваход тэхнікі ў вясковае жыццё, панаванне чалавека над прыродаю, — усё гэта стварае новы тып рэакцыі чалавека на з'явы акружаючага свету. Рэакцыі гэтыя маюць тэхнічна-рацыянальны характар, а не, як раней — магічна-іррацыянальны.

Дзіўная аднак рэч, што заняпад веры ў страхі ў вясковым асяроддзі не абазначае заняпаду гэтай веры ўвогуле. У свеце надалей выходзіць з друку вялікая колькасць літаратуры, у якой зусім усур'ёз расказваецца аб розных страхах, чарадзействах і г.д., а таксама літаратуры, у якой гэтыя інфармацыі аб страхах паддаюцца рознага тыпу аналізам.

Чытачы, мабыць, не ведаюць, што ўжо каля ста гадоў існуе галіна ведаў, якая займаецца навуковым даследаваннем інфармацый аб страхах і падобных незвычайных з'явах. Навуку гэтую называюць парапсіхалогіяй. Да вайны ў Польшчы друкавалася вялікая колькасць літаратуры з гэтай галіны. Была гэта найчасцей літаратура псеўданавуковая, вельмі нізкай вартасці, даючая чытачу найчасцей фальшывыя інфармацыі. Пасля вайны друкаванне кніжак з галіны парапсіхалогіі зусім устрымана. І толькі нядаўна паявілася першая пасляваенная кніжка з гэтай галіны. Гэта кніжка Ц. Гансля: Зверхпачуццёвае назіранне (C. Hansel: Spostrzeganie pozazmysłowe).

Аўтар кніжкі паддае надзвычай падрабязнай навуковай крытыцы такія з'явы парапсіхалогіі, як чытанне на адлегласць чужых думак (тэлепатыя), умеласць атрымання інфармацый без карыстання якім-небудзь з вядомых пачуццяў (празорлівасць), веды аб будучых падзеях (прароцтва), магчымасць уплыву на фізічныя прадметы праз адно толькі думанне пра іх (псіхакінэза). У апошніх раздзелах кніжкі аўтар расказвае аб спірытызме (практыкі, мэтай якіх было навязанне кантакту з „духамі») і медыюмізме (выклікание «духаў" рознымі асобамі).

З кніжкі даведваемся аб усёй гісторыі парапсіхалогіі. Аб праблемах гэтых напісана многа тамоў, сабрана тысячыданясенняў аб страхах, духах, аб чытанні чужых думак і іншых дзіўных з'явах. Аўтар кніжкі імкнецца разгледзець усё гэтае і вырашыць асноўную, дагэтуль не вырашаную праблему — ці тэлепатыя і іншыя незвычайныя з'явы, у якія ад тысячы гадоў верыць народ, існуюць у сапраўднасці, ці толькі ва ўяўленнях людзей?

Вывад кніжкі Гансля наступны: нягледзячы на стагадовыя амаль намаганні многіх вучоных і аматараў парапсіхалогіі, праблема існавання гэтых з'яў надалей не высветлена. Аўтар лічыць, што надалей няма рашаючага до-



 

